# БЯЛЫНІЦКАЯ ДАЎНІНА

КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА





**СПРАВЫ**

## ПЯТЫЯ ЧЫТАННІ СТАЛІ ГІСТОРЫЯЙ

**25 кастрычніка рада краязнаўчага таварыства паспяхова рэалізавала адзін з галоўнейшых сваіх традыцыйных праектаў - правяла Пятыя бялыніцкія краязнаўчыя чытанні.**

Мерапрыемства ладзілася на базе СШ № 1 райцэнтра - дырэкцыя школы прадставіла краязнаўцам утульную актавую залу.

З 22 двух папярэдне замоўленых дакладчыкаў агучылі свае спавешчанні шаснаццаць:

Аляксандра АГЕЕЎ (Магілеў, Дзяржаўны універсітэт, кандыдат гістарычных навук): «Краязнаўчы рух на Магілеўшчыне»;

Віктар ХУРСІК (Мінск, газета «Звязда») : «Магдаліна Радзівіл - вялікая патрыётка Беларусі, мецэнатка, асветніца»;

Васіль ЦЫРКУНОЎ (Галоўчын, краязнаўчы музей калгаса «Наша перамога»): «Галоўчынскія літаратары ў 2-й палове ХХ ст.»;

Анатоль МАРОЗАЎ (Бялынічы, ПТВ - 217) : «Калгасны рух на бялынiччыне ў 20-я - 30-я гг. ХХ ст.»;

Ігар ПУШКІН (Магілеў, Дзяржаўны тэхналагічны універсітэт) : «Вывучэнне ўзброенага супраціву ў 20-я - 30-я гг. ХХ ст.»;

Міхась КАРПЕЧАНКА (Бялынічы, газета «Зара над Друццю») : «Канфесійнае жыццё ў Бялынічах ў 2-й палове XIX ст.»;

Таццяна ШАСТАК (Эсьмоны, Эсьмонская СШ) : «Эсьмонскі царкоўны прыход»;

Віктар КАРАМАЗАЎ (Мінск, Саюз пісьменнікаў Беларусі): «Сцежкамі Бялыніцкага - Бірулі»;

Ала ВОЙЛАКАВА (Бялынічы, раённая бібліятэка) : «Тапаніміка цяхціншчыны»;

Алесь СНЫТКА (Бялынічы, СШ № 1) : «Гісторыя зніклай вёскі Ключыкі»;

Яраслаў КЛІМУЦЬ (Магілеў, Дзяржаўны універсітэт, кандыдат філалагічных навук) : «Літаратурны працэс на бялынiччыне ў 20-я - 30-я гг. ХХ ст.»;

Аляксей ХАДЫКА (Мінск, галоўны рэдактар часопіса «Спадчына», кандыдат мастацтвазнаўства) : «Мастацкія калекцыі ў магнацкіх рэзідэнцыях Усходняй Беларусі»;

Генадзь ЛАПО (Бялынічы, ПМК - 241): «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных жыхароў эсьмонскага рэгіёну»;

Святлана БУЙНІЦКАЯ (Бялынічы, мастацкі музей імя В. Бялыніцкага - Бірулі): «Месцапасяленне, традыцыі стараверай бялынiччыны»;

Надзея ПАЛОННІК (Бялынічы, мастацкі музей імя В. Бялыніцкага - Бірулі):«Род Бялыніцкіх - Бірулеў».

Андрэй КУНЦЭВІЧ (Бялынічы, газета «Зара над Друццю») : «Тапанімічны слоўнік вёскі Чырвоны Бор».

Адкрываючы чытанні, старшыня краязнаўчага таварыства ад імя рады ўручыў старэйшаму краязнаўцу бялынiччыны Васілю Цыркунову Падзячную грамату і каштоўны падарунак - за шматгадовую плённую працу па вывучэнню мінуўшчыны роднага краю і прапаганду дэмакратычных каштоўнасцяў.

Для ўдзельнікаў чытанняў была арганізавана экскурсія ў мастацкі музей імя В. Бялыніцкага - Бірулі, краязнаўчы музей калгаса «Наша перамога» (в. Галоўчын). Пленнымі атрымаліся іх сустрэча з настаўнікамі Галоўчынскай сярэдняй школы і наведванне Галоўчынскага замчышча.

Па традыцыі ў гэты самы дзень была праведзена і справаздачна - выбарная канферэнцыя краязнаўчага таварыства.

Бялыніцкія краязнаўцы, якія ўваходзяць у склад таварыства, аднагалосна прынялі рашэнне не абнаўляць склад рады.

Такім чынам, арганізоўваць і каардынаваць дзейнасць краязнаўчага таварыства яшчэ адзін год будуць А. Войлакава, М. Карпечанка (старшыня), А. Марозаў, М. Радоўскі, В. Цыркуноў.

Застаецца дадаць, што Пятыя краязнаўчыя чытанні атрымалі шырокі розгалас: аб іх пісалі як мясцовыя, так і абласныя ды рэспубліканскія СМІ.

**ДЗЯКУЕМ!**

Рада Бялыніцкага краязнаўчага таварыства выказвае шчырую падзяку ўсім, хто матэрыяльна і маральна падтрымаў Таварыства падчас правядзення Пятых краязнаўчых чытанняў.

І найперш гэтыя словы падзякі адрасуюцца прыватным прадпрымальнікам Сяргею Зазулінскаму, Міколу Мяцеліцу. Удачы вам, сябры!

**КАНФЕРЭНЦЫІ**

## ТРЭЦЯЯ МАГІЛЕЎСКАЯ МІЖНАРОДНАЯ

Упраўленне культуры Магілеўскага гарвыканкаму, Магілеўскі дзяржуніверсітэт харчавання і музей гісторыі Магілева запрашаюць паўдзельнічаць у III міжнароднай навуковай канферэнцыі «Гісторыя Магілева: мінулае і сучаснасць», якая адбудзецца 22 - 23 траўня 2003 года.

Тэматычныя накірункі канферэнцыі: «Археалагічныя і археаграфічныя даследванні Магілева і наваколля», «Гісторыя Магілева ад старажытнасці і да сучаснасці», «Культурная спадчына Магілева», «Магілеў у жыцці і творчасці знакамітых асоб», «Уклад магілеўцаў у станаўленне і развіццё грамадства», «Магілеў як гістарычны, эканамічны і культурны цэнтар прыдняпроўскага краю», «Сацыя - культурныя асаблівасці развіцця магілеўшчыны на рубяжы стагоддзяў».

**(Працяг тэмы на 3 старонцы.)**

 

ДАСЛЕДВАННІ

# РОД БЯЛЫНІЦКІХ - БІРУЛЯЎ

**Бялыніцкія – Бірулі належылі да старажытнага і вядомага шляхецкага роду Вялікага Княства Літоўскага, якія карысталіся гербам "Бялыня". Гэты герб мае некалькі элементаў: карону, дзве перакрыжаваныя харугвы, стралу з апярэннем, падкову, падковападобную тарчу, шэраг іншых драбнейшых геральдычных знакаў і выяў.**

Першая частка прозвішча паходзіць ад родава га маёнтка Бялынічы (сучасная вёска Бялынавічы Віцебскага раена).

Прыдомак "Біруля", магчыма, роднасны найменню беларускай народнай гульні "Бірулькі", сутнасць якой заключаецца ў тым, каб з кучы дробных прадметаў кручком выбраць усе адзін за адным, не пасоўваючы тых, што застаюцца.

Вядомы даследчык Вячаслаў Насевіч выказвае меркаванне, што род Бялыніцкіх – Біруляў паходзіць ад віцебскіх баяраў Харковічаў, бо ў 1635 годзе, магчыма, сына Гаўрылы Сямёнавіча Бірулі, які ў час Лівонскай вайны (1588 – 1583) быў ротмістрам казацкай харугвы, Яна назвалі Харковічам.

Першым у гэтым родзе - знакамітым, ібагатым на выбітных і мужных асоб, шляхецкія вольналюбівыя традыцыі - на старонках гістарычных дакументаў згадваецца віцебскі казак Сямён Біруля, які ўвайшоў у гісторыю Віцебска як адважны абаронца роднага горада ад войскаў маскоўскага цара Івана Жахлівага. Яго сын Гаўрыла Сяменавіч Біруля

Варта адзначыць, што яшчэ адзін прадстаўнік роду Бялыніцкіх – Біруляў змагаўся ў паўстанцкім атрадзе Тадэвуша Касцюшкі і загінуў за вольнасць, другі быў паранены пад Кобрынам у змаганні з напалеонаўскім войскам, трэці (дзед заолага Аляксея Андрэевіча) служыў на флоце Ф. Ушакова, прымаў удзел ва ўзяцці крэпасці Корфу, што знаходзілася ў Іанічным моры.

Вядомы расійскі заолаг Аляксей Бялыніцкі – Біруля з'яўляўся дзядзькам Вітольду Каятанавічу па бацькавай лініі.

Аляксей Андрэевіч Бялыніцкі – Біруля ( 30 кастрычніка / па іншых звестках – 2 лістапада/ 1864 – 18 чэрвеня 1937) нарадзіўся ў весцы Бабкоў Аршанскага павету ў сям'і прыродазнаўцы Андрэя Сімпліцыянавіча Бялыніцкага – Бірулі (1825 – 1916). Для дакладнага назірання і даследвання з'яў прыроды, Андрэй Сімпліцыянавіч пабудаваў у сваім маёнтку Новае Каралёва былога Віцебскага павету метэаралагічную станцыю. Лёс яе аказаўся трагічным. У 1918 годзе мясцовыя жыхары знішчылі бібліятэку станцыі, у якой, поруч са спецыяльнай літаратурай, захоўваўся і багаты фактычны матэрыял, сабраны ў выніку шматгадовых назіранняў. Факт рабавання быў асветлены ў паведамленні «Дикие нравы» на старонках "Известий исполнительного комитета Советов Западной области" (№ 172, 1918 г.), якая выходзіла ў Смаленску.

Дзядзька мастака закончыў гімназію ў Вязьме і прыродазнаўчае аддзяленне фізіка – матэматычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта. Са студэнцкіх гадоў Аляксей Андрэевіч апантана збіраў расліны, членістаногіх, марскіх жывелін. Займаўся вывучэннем скарпіёнаў. Да слова сказаць, сур'ёзнае вывучэнне гэтай групы жывелы пачалося ў свеце толькі напрыканцы XIX стагоддзя. Прафесійна тады назіралі за скарпіёнамі ў Францыі Жан Анры Фабр, а ў Расіі – А. А. Бялыніцкі – Біруля. Аляксей Андрэевіч быў перакананы, што ў недалёкай будучыні, калі скарпіёны будуць лепей вывучаны, людзі, верагодна, і цаніць іх стануць куды больш. Па выніках сваіх даследванняў, ён выдаў манаграфію "Скарпіёны".

Адным з першых А. А. Бялыніцкі – Біруля таксама звярнуў увагу на залежнасць некаторых асаблівасцяў пабудовы гідроідаў ад умоў іх знаходжання.

На працягу 44 гадоў ён працаваў у Заалагічным музеі, размешчаным на Васільеўскім востраве ў Пецярбурзе, супрацоўнікамі якога з'яўляліся слынныя вучоныя В. Біанкі, В. Догель, Л. Орбелі і іншыя.

Аляксей Андрэевіч удзельнічаў у рызыкоўнай Палярнай экспедыцыі на караблі "Зара" (8 ліпеня 1900), якую ўзначальваў Эдуард Толль. У час зімоўкі на Таймырскім заліве А. Бялыніцкі – Біруля захварэў на цынгу, але нягледзячы на знясільваючую хваробу, вучоны працаваў над сістэматызацыяй і апісаннем гербарыя, які ўдалося сабраць на паўвостраве Чалюскіна – самай крайняй паўночнай кропцы Азіі.

За час экспедыцыі Аляксей Андрэевіч даследваў таксама планктоны паблізу групы Новасібірскіх астравоў, апісаў расліннасць і жывельны свет вострава Новай Сібіры, назіраў і апісаў таямнічую ружовую чайку.

З экспідыцыі, якая праходзіла ва ўмовах цяжкіх выпрабаванняў і рызыкі, А. А. Бялыніцкі – Біруля вярнуўся ў Пецярбург толькі напачатку 1903 года.

Вучоная адразу ж выбралі сапраўдным сябрам пяці навуковых таварыстваў, а ў 1923 годзе ён быў абраны членам – карэспандэнтам Расійская Акадэміі навук.

Але гэтая вядомасць і значымасць не вырatавалі вучонага ад рэпрэсій. Перад чысткай АН СССР Аляксей Андрэевіч займаў пасаду дырэктара Заалагічнага музея, з'яўляўся прафесарам Ленінградскага Дзяржаўнага універсітэту. Летам 1929 года ў час правядзення чарговай чысткі выступіў у падтрымку свайго супрацоўніка. Праз нейкі часу (23 лістапада 1929 г.) за гэта вучоны зняты з пасады дырэктара і прызначаны часова выконваць абавязкі старшага заолага музея, а 16 лістапада наступнага года – арыштаваны і 10 лютага 1931 года сумнавядомым па – за судовым органам - "тройкай" ПП АДПУ пры ЛВА- асуджаны на тры гады канцэнтрацыйнага лагеру. Тэрмін пакарання адбываў у Белбалтлагу.

На рахунку А. А. Бялыніцкага – Бірулі каля 150 навуковых прац. Яго імя носяць заліў і гара на беразе Таймырскага паўвострава.

Памер Аляксей Андрэевіч 18 чэрвеня 1937 года.

Да слова сказаць, у гэты ж самы дзень, толькі праз 20 гадоў, памер і Вітольд Каятанавіч Бялыніцкі – Біруля.

Род Бялыніцкага – Бірулі звязаны быў трывалымі сваяцкімі сувязямі і з не менш славутым родам Паленавых, у шэрагах якіх таксама знаходзім і буйных вучоных, і слыннага жывапісцу, і няскоранага праўдалюбцу, гісторыка, юрыста, пісьменніка...

Прадзед Вітольда Каятанавіча Бялыніцкага – Бірулі Аляксей Якаўлевіч Паленаў (1738 – 1816) з'яўляецца буйным гісторыкам, асветнікам, юрыстам. У сваім знакамітым, публіцыстычна – вострым творы "Аб прыгонным стане сялян у Расіі", напісаным у 1766 годзе, надрукаваным толькі ў 1865 – амаль праз 90 гадоў пасля стварэння і праз паўстагоддзя пасля смерці аўтара – абгрунтоўваў і даказваў неабходнасць абмежавання прыгоннага права. Нас не можа не здзівіць не толькі навуковая прадбачлівасць Аляксея Якаўлевіча, але і ягоная мужнасць, якая дазволіла рэзка крытыкаваць прыгонніцтва яшчэ ў часы панавання Кацярыны II.

Праўнукамі Аляксея Якаўлевіча таксама былі згаданы вышэй Аляксей Андрэевіч Бялыніцкі – Біруля, мастак В. Д. Паленаў, нейрахірург А. Л. Паленаў.

Сапраўдны сябра пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, народны мастак Расіі Васіль Дзмітрэвіч Паленаў [20 мая (1 чэрвеня) 1844 , Пецярбург - 18 ліпеня 1927, Борок, цяпер Паленава Тульской вобласці] нарадзіўся і выхоўваўся ў сям'і дыпламата, заўзятага бібліеграфа і археолага Дзмітрыя Васільевіча Паленава. Будучы мастак вучыўся ў П. Чысцякова і пецярбургскай Акадэміі мастацтваў і адначасова, паралельна, засвойваў юрыспрудэнцыю ў сценах Пецярбургскага універсітэту. Але захопленасць жывапісам, якую ен, па яго ж сцверджанні, з маленства пераняў ад маці, перамагае.

Заўважу, што і Вітольду Каятанавічу любоў да фарбаў, музыкі, літаратуры, словам, мастацтва наогул прывіла таксама маці.

Напрацягу чатырох гадоў (1872 – 1876) Васіль Паленаў знаходзіўся ў Італіі, Францыі і Германіі як "пенсіянер" Акадэміі мастацтваў, затым удзельнічаў у якасці дабраахвотніка ў серба – чарнагорска – турэцкай (1876) і мастака – карэспандэнта ў руска – турэцкай (1877 – 1878) войнах. У замежжы выканаў шэраг твораў у стылі салоннага акадэмізму на тэмы заходне – еўрапейскай мінуўшчыны. Тут жа, ва ўмовах замежжа, зарадзілася і ягоная прыхільнасць да пейзажу, які займае ў далейшай яго творчасці вялікае месца.

Славядаючы традыцыю ціхага лірычнага пейзажу, Васіль Дзмітрыевіч адным з першых сярод тагачасных расійскіх жывапісцаў дасягнуў пленэрнай свежасці каларыту, натуральнасці матыву, які спалучаўся з кампазіцыйнай завершанасцю і дакладнасцю малюнка. Распрацаваныя Паленавым прынцыпы прыўнясення ў пейзаж жанравага ці лірыка – асацыятыўнага пачатку, разуменне эцюда як самастойнага мастацкага твора мелі вялікае значэнне для далейшага развіцця рускага пейзажнага жывапісу, садзейнічалі абнаўленню сістэмы акадэмізму.

З 1870 года Васіль Паленаў становіцца сябрам славутага таварыства перасоўнікаў.

Для пейзажаў Паленава, прысвечаных роднай прыродзе, пачынаючы з сярэдзіны 1880 – х гадоў характэрны эпічнасць, рысы манументалізму, своеасаблівага дэкаратывізму, вольны стыль пісьма; імкненне да стварэння абагуленага вобразу рускай прыроды.

З 1882 да 1895 года працаваў выкладчыкам у Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства. Яго вучнямі былі І. Левітан, К. і С. Каровіны, А. Галавін, а таксама блізкі сваяк В. К. Бялыніцкі – Біруля. Несумненна, апошні, як пачатковец, вучань зведаў пэўны ўплыў ідэй і прынцыпаў жывапіснай сістэмы Васіля Дзмітрыевіча. Вітольд Каятанавіч, нагадаем, паступіў у гэта вучылішча ў 1889

**(Працяг тэмы на 4 староны.)**





## адкрыўся сайт Згуртавання беларускай шляхты

**На http://mail.tut.by/Redirect/www.nobility.by/ адкрыўся сайт Згуртавання беларускай шляхты.**

На ім размешчана агульная інфармацыя пра Згуртаванне беларускай шляхты, парады па пошуку радаводу, тэксты артыкулаў, што друкаваліся ў часопісе гэтага грамадскага аб"яднання.

На сайце можна таксама знайсці спісы шляхецкіх родаў, актуальных на 19 стагоддзе. Кожны цікаўны можа пашукаць свае карані. Паколькі поўны спіс шляхецкіх родаў складасці складана, то любы наведвальнік можа пакінуць інфармацыю пра вядомы яму род (са спасылкай на крыніцу звестак). Такім чынам, спіс шляхецкіх родаў будзе папаўняцца. У раздзеле "Шляхецкая энцыклапедыя" публікуюцца артыкулы, звязаныя з рознымі аспектамі шляхецкага жыцця. У бліжэйшы час плануецца стварэнне шляхецкага альманаха «Nomenclator: Альманах шляхты Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага і іншых земляў». У выданні будуць друкавацца радаводы існуючых беларускіх шляхецкіх родаў. Асоба, якая жадае апублікаваць свой радавод, павінна прадставіць апрацаваную генеалогію. Рэдакцыя здзяйсняе зверку з крыніцамі, дэталізаванне і дапаўненне інфармацыі, падрыхтоўку яе да друку.

У Згуртаванне беларускай шляхты могуць уступіць толькі асобы, якія паходзяць са шляхты Вялікага княства Літоўскага, Польскага каралеўства альбо Герцагства Курляндыі і Семігаліі і Пілтэнскага павету ці нашчадкі асоб, якія былі прызнаныя ў расійскім дваранстве і ўнесеныя ў Радаводныя кнігі Заходніх губерняў. Пры гэтым абавязкова трэба прадставіць дакументы, якія сведчаць пра паходжанне роду. Акрамя таго, шляхецтва перадаецца толькі «па мячу», г. зн. па мужчынскай лініі. Асобы, у якіх шляхецкае паходжанне мелі маці альбо бабка, не з'яўляюцца шляхцічамі і не могуць прэтэндаваць на ўступленне ў Згуртаванне беларускай шляхты. ЗБШ было створана ў 1988 годзе, у 1992 годзе адбыўся першы сойм арганізацыі і быў абраны старшыня - доктар Анатоль Грыцкевіч. У 1996 годзе ён быў перавыбраны Вялікім Маршалкам ЗБШ. У гэтым жа годзе арганізацыя была зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі.

***Ул. інф.***

*КОНКУРС*

## ВЕДАЦЬ СВОЙ КРАЙ

Рада Бялыніцкага краязнаўчага таварыства абвяшчае аб правядзенні конкурса на лепшае даследаванне гісторыі бялыніччыны.

Асноўныя патрабаванні:
- аб"ектыўнасць;
- выкарыстанне дзвюх і больш крыніц;
- разгорнуты аналіз;
- навізна тэмы даследвання;
- абавязковая наяўнасць спасылак, спісу выкарыстаных крыніц.

Удзел у конкурсе могуць прыняць усе жадаючыя, без увагі на ўзрост, прафесійны занятак, месца жыхарства.

Аб'ём конкурснага даследвання не павінен перавышаць сямі машынапісных (камп'ютарных) старонак тэксту разам з ілюстрацыямі, графікамі, табліцамі, спісам скарыстанай літаратуры.

Тэматыка даследванняў не абмежаваная. Мова - беларуская.

Да разгляду прымаюцца таксама і даследванні, напісаныя калектывам аўтараў.

Апошні тэрмін прадстаўлення конкурсных работ - 17 сакавіка 2003 года.

Тры пераможцы конкурса будуць заахвочаны каштоўнымі падарункамі. Даведкі па тэл. 51 - 392.

## ТРЭЦЯЯ МАГІЛЕЎСКАЯ МІЖНАРОДНАЯ

**/ Пачатак на 1 ст. /**

Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі трэба дасылаць да **10 студзеня 2003** года на адрас: **212027, кафедра гуманітарных дысцыплін Магілеўскага дзяржаўнага універсітэта харчавання, пр-т Шмідта, 3, г. Магілеў.**

У заяўцы неабходна ўказаць сваё прозвішча, імя, імя па бацьку, хатні і службовы адрасы, нумары тэлефонаў, месца працы, пасаду, навуковую ступень і званне (калі яны ёсць).

Тэксты дакладаў і паведамленняў на паперы і дыскеце (Word) памерам да 9 старонак са спасылкамі (Times New Roman, 14, спасылкі ў «квадратных» дужках [ 5, с. 45], спіс літаратуры ў канцы тэксту) неабходна даслаць да **1 сакавіка 2003** года на пададзены вышэй адрас.

Дыскеты будуць вяртацца пры рэгістрацыі ўдзельнікаў.

Матэрыялы канферэнцыі ў выглядзе рэцэнзаванага зборніка навуковых прац плануецца надрукаваць да пачатку канферэнцыі. Рэдкалегія пакідае за сабой права экспертнай ацэнкі і рэдагавання дакладаў.

Персанальныя запрашэнні на ўдзел у канферэнцыі будуць дасылацца пасля атрымання заяўкі і тэксту даклада.

Арганізатары плануюць іншагародніх удзельнікаў Трэцяй міжнароднай навуковай канферэнцыі «Гісторыя Магілева: мінулае і сучаснасць» забяспечыць харчаваннем і пражываннем. Праезд за кошт камандзіруючай арганізацыі.

Тэлефон для даведак: **0222 - 44 - 15 - 60** (кафедра гуманітарных дысцыплін, Пушкін Ігар Аляксандравіч).

## ЗНОЙДЗЕНЫ БАРЫСАЎ КАМЕНЬ

Працы па выяўленню Друйскага Барысавага каменя, якія былі пасляхова завершаны ў другой палове кастрычніка, сталі адной з важнейшых падзей у культурным жыцці Браслаўшчыны.

Друйскі Барысаў камень, які ляжаў на мелкаводдзі пры ўпадзенні ракі Друйкі ў Заходнюю Дзвіну, быў знойдзены ў 1896 годзе. Пасля таго, як валун быў сцягнуты ледаходам у больш глыбокае месца, перакулены і занесены пяском, аб ім амаль забылі. У 80-я гады XX ст. спробу адшукаць Барысаў камень ля Друі прадпрыняла археолаг Людміла Дучыц. Валун адшукалі, але, каб пераканацца, што гэта менавіта Барысаў камень, трэба было выцягнуць яго на бераг.

Летам бягучага года ўзровень вады ў Друйцы і Заходняй Дзвіне быў надзвычай нізкім. Частка валуна аказалася на паверхні. На гэта звярнула ўвагу старшыня Друйскага пасялковага савета Людміла Шумчык. Яна ж вырашыла не ўпусціць унікальную магчымасць арганізаваць працы па вызваленню валуна з рачнога палона.

Было прадпрынята 5 спроб выцягнуць камень. Задача ўскладнялася тым, што валун распаўся на тры фрагменты, самы вялікі з якіх важыў прыблізна 15-20 тон. 23 кастрычніка, калі камень падцягнулі да берага, на яго баку праступілі фрагменты крыжа і літары. 24 кастрычніка працы былі завершаны: тры фрагменты ўстаноўлены на высокім беразе, на бяспечнай адлегласці ад вады. Тут іх зможа ўбачыць любы, хто пажадае. У наступным годзе плануецца ўстанавіць каштоўны помнік побач з галоўнай плошчай мястэчка Друі.

Усяго даследчыкам было вядома 7 Барысавых камянёў, пяць з якіх знаходзіліся ў рэчышчы Заходняй Дзвіны ці бліжэйшых ваколіцах. Сваю назву камяні атрымалі таму, што ў надпісах, зробленых у XII стагоддзі на іх паверхні, згадваецца імя Барыс. Гісторыкі звязваюць яго з полацкім князем Барысам Усяслававічам, які княжыў у 1127 – 1129 гадах. Усе Барысавы камяні былі апісаны даследчыкамі яшчэ ў XIX ст. Але лёс большасці з іх склаўся драматычна. Знішчэння пазбеглі невялікі камень з-пад Дзісны, які ў 80-я гады XIX ст. быў перавезены ў Маскву, і камень ля вёскі Падкасцельцы (устаноўлены каля Полацкага Сафійскага сабора).

**Паводле BARCNEWS.**

 

АБСЯГІ. НАВІНЫ. ЦЫТАТЫ

# РОД БЯЛЫНІЦКІХ - БІРУЛЯЎ

годзе, прыехаўшы ў Маскву па парадзе родных з Кіева, дзе, навучаючыся ў кадэцкім вучылішчы, хадзіў на заняткі ў малявальную школу Мурашкі.

Аб характэрным для роду Бялыніцкіх – Біруляў і Паленавых вольналюбстве, мужнасці, шляхетнасці, справядлівасці сведчыць і наступная дэталь: у 1905 годзе Васіль Паленаў разам з Сяровым накіравалі пратэст у савет Акадэміі мастацтваў супраць расстрэла рабочых 9 студзеня.

В. Д. Паленаў – асоба, таямнічая ў жывапісным мастацтве, у гісторыю якога ён увайшоў сваім ціхім, але надзвычай пранікненым словам. Яго называюць лірыкам, закаханым у прыгажосць старых сядзібаў з іхнімі цеснымі паркамі і зарослымі азерамі.

Захоўваючы вернасць традыцыям рэалізму, у сваіх работах Васіль Дзмітрыевіч арганічна спалучаў рысы сімвалізму, мадэрнізму і імпрэсіянізму.

Нельга не згадаць яшчэ аднаго прадстаўніка гэтага роду, які пакінуў значны след у развіцці медыцыны.

Акадэмік Акадэміі медыцынскіх навук Андрэй Львовіч Паленаў (1871 – 1947), а менавіта яго зараз і маем на ўвазе, з'яўляецца адным з заснавальнікам нейрахірургіі ў СССР.

Нейрахірургіі як самастойнага тэарэтычнага і практычнага накірунку ў медыцыне дарэвалюцыйнай Расіі не існавала наогул. Нейрахірургічная клініка прафесара Д. М. Пусепа, якая паўстала ў час Першай сусветнай вайны, з эміграцыяй кіраўніка яе ў 1918 годзе злiквідавалася. Пагэтаму кафедра хірургічнай неўрапаталогіі, створаная прафесарам Андрэем Львовічам Паленавым на базе Дзяржаўнага траўматалагічнага інстытута, фактычна і з'явілася піянерам у гэтай галіне. Спецыялісты аднназначна сцвярджаюць, што ўзнікненне нейрахірургіі з'яўляецца найвыдатнейшай падзеяй і дасягненнем у развіцці медыцыны канца XIX – пачатку XX стагоддзяў.

Гэтаму ў немалой ступені садзейнічала з'яўленне ў плеядзе найвыбітных хірургаў таленавітага і захопленага навукоўцы і практыка Андрэя Паленава.

...Адзін з непазбежных вынікаў усялякай вайны – з'яўленне мноства скалечаных людзей. Каб дапамагчы інвалідам Андрэй Львовіч у 1918 годзе стварае новы Фізіяхірургічны інстытут, у якім не толькі зараджаецца, але і пачынае інтэнсіўна развівацца косцевая рэстаўрацыйная хірургія, траўматалогія і нейрахірургія ў спалучэнні з фізія – і механатэрапіяй.

У тым жа самым годзе прафесар Паленаў засноўвае ў Дзяржаўным інстытуце медыцынскіх ведаў першую ў Савецкім Саюзе кафедру траўматалогіі і ортапедыі. Напрацягу некалькіх гадоў ён нястомна змагаецца за выдзяленне траўматалогіі ў самастойную галіну хірургіі.

Прадуманыя дзеянні Паленава прывялі да таго, што ў Пецярбургу пачынаюць дзейнічаць аднадчасова дзве фактычна падобныя медыцынскія ўстановы. Напачатку 1924 года яны былі аб'яднаныя ў Дзяржаўны траўматалагічны інстытут, які і ўзначаліў Андрэй Львовіч. Праз сем гадоў Паленаў прызначаецца загадчыкам нейрахірургічнага аддзялення (кафедры) Інстытута.

За два першыя гады спецыялісты кафедры аказвалі дапамогу інвалідам вайны з раненнямі ў асноўным перыфірычнай нервовай сістэмы і іх наступствамі. За гэты час прафесар Паленаў і яго вучні выканалі 291 аперацыю, пралячылі 439 чалавек.

Варта заўважыць, што Паленаў разам з сябрам прафесарам М. П. Нікіціным яшчэ ў 1921 годзе ў Фізіяхірургічным інстытуце арганізаваў першае ў савецкай краіне аддзяленне хірургічнай неўрапаталогіі, якое ён пастаянна пашыраў, аб'ядноўваючы вакол сябе вучняў. У далейшым гэта група стала першай, а значыць і самай старэйшай школай нейрахірургаў – Ленінградскай.

Пад кіраўніцтвам Паленава і пры яго непасрэдным удзеле ажыццяўляецца вывучэнне пытанняў хірургіі перыфірычных нерваў, праблем нервовай трофікі. Вынікі сваіх даследванняў і практычны вопыт А. Л. Паленаў абагуліў у манаграфіі "Аб новых метадах хірургічнай тэрапіі трафічных растройстваў пры пашкоджанні перыферычнай нервовай сістэмы канечнасцяў".

З 1927 Паленаў упершыню пачынае выкладаць слухачам Дзяржаўнага інстытута ўдасканальвання ўрачоў прыватны курс па нейрахірургіі. Аднадчасова поруч з інтэнсіўнай распрацоўкай хірургіі перыферычнай нервовай сістэмы ён дасканала вывучае і шукае шляхі вырашэння праблемы хірургіі цэнтральнай нервовай сістэмы – аперацыйнага лячэння пухлін галаўнога і спіннага мозгу, эпілепсіі, гідрацэфаліі. У 1932 годзе сумесна з прафесарам М. Нікіціным Паленаў выступае з дакладам на Міжнародным з'ездзе неўрапатолагаў, які праходзіў у Берне. У 1934 годзе А. Паленаву было прысвоена званне заслужанага дзеяча навукі.

Напрацягу 1935 – 1937 гг. упершыню ў краіне ён выдае два практычныя дапаможнікі па нейрахірургіі, а ў 1943 пабачыла свет яго капітальная праца "Асновы практычнай нейрахірургіі", якая і па сёння з'яўляецца па сутнасці настольнай кнігай кожнага спецыяліста ў гэтай галіне практычнай і тэарэтычнай медыцыны.

Важнейшым этапам у станаўленні нейрахірургіі з'явілася ініцыянаванае Паленавым аб'яднання школы Ленінградскіх нейрахірургаў на базе Ленінградскага нейрахірургічнага інстытута (1938), на чале якога ён і становіцца.

*Надзея* **ПАЛОННІК.**

## ✱ ПАМЯЦЬ

# ГЕРОІ НЕ ПАМІРАЮЦЬ

У час Вялікай Айчыннай вайны лётчык Мікалай Кітаеў асабіста збіў 27 фашысцкіх самалетаў, а 8 - у групавых баях. Яму было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, пададзена прадстаўленне на ўзнагароджванне другой Зоркай. Ды летчык патрапіў у палон. Мужны чалавек, ен праз нейкі час здолеў уцекчы з няволі. Другую Зорку легендарны летчык не атрымаў, замест узнагароды адчуў падазронасць. Жыў і працаваў у Бялынічах. На могілках вескі Рагач знайшоў свой апошні прытулак.

21 лістапада ў мастацкім музеі прайшла вечарына ўшанавання памяці летчыка. Мясцовы скульптар - самавучка Віктар Алехін перадаў музею бюст М. Т. Кітаева, ветэраны А. Любецкі, Р. Бравусаў, І. Падаляк падзяліліся ўспамінамі аб Мікалаю Трафімавічу, а В. Ермаловіч прачытаў нізку патрыятычных вершаў беларускіх пісьменнікаў: Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аляксея Пысіна, Васіля Карпечанкі, Віктара Хаўратовіча.

## Поль ВЭЙН.

**«Ці верылі грэкі ў свае міфы?»** ( Мінск, "Энцыклапедыкс", 2000 г.,175 ст., 1000 асобнікаў.):

«Праз пацешнае, няёмкае, дробную іронію будзённага жыцця ў свядомасці праяўляюцца і болей сур"ёзныя працэсы. Усе гарады і селішчы, вялікія і малыя, мелі свае карані, і кожны мог быць апеты ўсхвальнай прамовай, падручнікі рыторыкі давалі адмысловыя рэцэпты, як вызначыць хоць якую - небудзь вартасць любой нават самай зачуханай сялібы. Таму такія панегерыкі мелі на мэце не так узвысіць пэўнае селішча над астатнімі, як прызнаць за ім яго ўласную годнасць. І ўсхваленне мела ў большай ступені не калектыўнага адрасата, а скіроўвалася да кожнага паасобку. Праз такія панегерыкі, прамаўляныя перад усеагульным сходам, група, што збіралася іх паслухаць, зусім не пачынала сама сябе абагаўляць - накшталт той, што ў свой час апынулася ў Нюрнбергу: усхвальнае слова гораду дазваляла адчуць кожнаму грамадзяніну не столькі і не толькі, што яго падтрымлівае нейкая калектыўная сіла, а - у большай ступені - што, апроч сваіх заслугаў, ён мае яшчэ і ўласную годнасць, якою з"яўляецца якасць грамадзяніна. Услаўленне групы было ўслаўленнем кожнага паасобку - як, скажам, у выпадку, калі б шляхетнасць услаўлялі перад прадстаўнікамі шляхты. Кожны ганарыўся не тым, што належыў менавіта да гэтага, а не іншага горада, а тым, што ўвогуле меў годнасць грамадзяніна, бо мог бы яе і не мець. Грамадзянства не ўспрымалася як нейкая ўсеагульная якасць, як гэткая своеасаблівая нулявая ступень азначанасці асобы, якой яно з"яўляецца сёння, калі ўсе мы лічымся грамадзянамі ці то Францыі, ці то Беларусі, бо не можам быць проста нечым нейкім. Тады лічылася, што належаць пэўнаму гораду мала, каб ганарыцца тым, што ты грамадзянін. Тлумачэнне гэтаму трэба, мусіць, шукаць у падводнай частцы айсберга антычнай палітыкі. Скажам толькі, што селішча - гэта было не «насельніцтва», яно не атаясамлівалася з тою людской фаўнай, якою воляю выпадку было наканавана нарадзіцца ў межах пэўнай тэрытарыяльнай прасторы. Кожнае селішча адчувала сябе як асобнае, так бы мовіць, жывое цела...».

ТРАДЫЦЫІ

# СТАРАВЕРЫ БЯЛЫНІЧЧЫНЫ

**Напрыканцы 80 – х гадоў XIX стагоддзя на тэрыторыі Эсьмонскай воласці ўзніклі хутары стараабрадцаў, які перасяліліся сюды, жадаючы захаваць вернасць старадаўняй дзядоўскай веры, знайсці больш прыстойныя і спакойныя ўмовы для жыцця. Прыкладна ў гэты ж самы час узнікла і веска, жыхарства якой складалася таксама з сялян – старавераў, - Старая Клёўка.**

Перабраліся на эсьмоншчыну стараабрадцы ў асноўным з былой Віленскай губерні. А выбралі яны гэтыя мясціны зусім невыпадкова, паспрыялі таму абставіны.

Тутэйшы пан, які валодаў угоддзямі ў ваколіцах сучаснай Стара –Клёўкі, распрадаваў сваю зямлю. Вось прыезджыя людзі і набылі яе. Паколькі стараабрадцы былі майстравітымі людзьмі – умелі рабіць павозкі, калёсы, вупраж і іншыя, неабходныя ў кожнай сялянскай гаспадарцы рэчы і прылады – паспрыяла іхняму пасяленню тут і наяўнасць у навакольных лясах дуба, які быў асноўнай сыравінай для развіцця саматужнага рамяства.

Стараверскія сем'і, як правіла, набывалі ва ўласнасць зямлі не менш за 10 валокаў. Цяперашнія нашчадкі тых першапасяленцаў, не – не, дый згадаюць часам у гутарцы, што іхні, скажам, прадзед валодаў 15, 25 валокамі. Праўда, валокі тыя нярэдка знаходзіліся ў розных мясцовасцях – і пад Міхасеўкай, і ў Стараселлі...

Старажылы згадваюць, што непадалеку ад Старай Клёўкі знаходзілася і хутарскія сядзібы стараабрадцаў. Некалькі хутароў узнікла на шляху з вескі Кулакоўка ў веску Міхасёўка. Гаспадарылі на іх сем'і Сімкі Аўдзеева, Сяргея Гвоздзева, Афяценія Прышчэпава і некаторыя іншыя стараверы.

Перад пачаткам Другой сусветнай вайны хутары гэтыя, як і ўсе астатнія, ссялілі дзеля таго, каб людзі ўступілі ў калгасы.

Сем'і з хутароў, што знаходзіліся на шляху з Кулакоўкі ў Міхасёўку, пераехалі на сталае жыхарства ў Старую Клёўку і ўступілі ў тамашні калгас "Другая сесія".

Да вайны ў гэтай весцы, якая па сутнасці з'яўлялася буйным культурна – асветніцкім і духоўным асяродкам бялыніцкіх стараабрадцаў, дзейнічала школа з рускай мовай навучання, існавала стараверская царква (малітоўны дом), а, бадай, ці не кожная сям'я мела шмат старадаўніх, "правільнай веры", царкоўных кніг і ікон. Праўда, вельмі шмат іх загінула ў час вайны. У пяцідзесятыя годы прамінулага стагоддзя была разбурана і стараверская царква – з яе пабудавалі ў Стараселлі вясковы клуб. Святаром у царкве да самай ліквідацыі яе служыў Сяргей Гвоздзеў, а ўтрымлівалася бажніца на ахвяраванні саміх прыхаджанаў.

Сяляне – стараверы строга і няўхільна прытрымліваліся сваіх абрадаў, законаў, традыцый. З трохгадовага ўзросту дзіцяці пад прыглядам бацькоў ужо павінна было захоўваць пасты.

Старыя ніколі не галіліся. Безбародага памерлага адзінаверцу яны маглі нават не хаваць па свайму абраду.

Строгімі былі парадкі і пры заключэнні шлюбу. Сям'я магла быць створана толькі паміж адзінаверцамі.

Заўседы па суботах пасля абеду са стараувераў ужо ніхто не працаваў, а бліжэй да вечара ўсе яны спяшаліся ў малітоўны дом на вячэрнюю службу. У нядзелю богаслужэнні ў царкве пачыналіся а 4 гадзіне раніцы. Затым служылі абедню, маліліся і ўвечары.

Старыя людзі з ліку мясцовых стараабрадцаў да сенняшняга дня прытрымліваюцца ўсіх стараверчых законаў, традыцый і абрадаў. Маладыя ж выконваюць толькі галоўныя, найбольш значныя.

У некаторых сем'ях захаваліся старыя кнігі, па якіх праводзяцца цяпер розныя абрады.

Напрыклад, пры пахаванні нябожчыка абавязкова апранаюць у доўгую сарачыцу і падвязвалі паяском. Паверх адзення апраналі саван, адным кутком палатна закрывалі твар памерламу і, доўга молячыся, распачыналі абрад провадаў. Пасля гэтага нельга было нябожчыку адкрываць твар, бо ў такім выпадку трэба было выконваць абрад провадаў з самага пачатку.

Стараверы хаваюць нябожчыка, як праваслаўныя і каталікі, на трэці дзень.

Дакладна і строга рэгламентаваны ў мясцовых стараувераў і абрад хрышчэння.

Калі дзіця ў сям'і нараджалася нядужым, хворым, то сам бацька павінен быў адразу ж па нараджэнні яго пахрысціць немаўля – каб не памёр нехрышчоным.

Хрост, паводле сведчання жыхаркі Старой Клёўкі Надзеі Рыгораўны Баравіковай 1932 года нараджэння, праводзіўся наступным чынам: неабходна было перахрысціцца самому і тройчы са словамі "Во имя отца, и сына, и святого духа" акунуць дзіця ў ваду, а на слова "Амінь" выцягнуць яго з вады.

Калі нядужае дзіця выжывала, пазней яго трэба было перахрысціць у царкве. Імя давалі выключна па імяннному календары.

У царкве напачатку выканання абраду хрышчэння дзіця поп ставіў кумоў і дзіця да ўсходу тварам, рукі яны трымалі далонямі ўверх. Дзіця трымае на руках бабка. Поп чытае малітву да Святой Багародзіцы, трапары.

Затым дзіця паварочваюць тварам на захад. Тое ж самае павінны зрабіць і кумы. На гэты раз свае далоні яны паварочваюць уніз.

Поп задае пытанні, кумы адказваюць за дзіця. У выпадку, калі хрысціцца дарослы, на пытанні святара ён адказвае сам.

Пытанні і адказы прамаўляюцца кожныя па тры разы.

Пытанне: "Адмаўляешся ад сатаны?"

Адказ: "Адмаўляюся ад сатаны".

Пасля абраду адрачэння ад сатаны кумы плююць тройчы пад левую нагу. Калі хрысціцца дарослы, гэта ён, вядома ж, робіць сам.

Затым святар становіцца тварам на захад і, трымаючы дзіця тварам на ўсход, апускае яго ў купель са словамі "Во имя отца, и сына, и святого духа". На слова "Амінь" дастае з вады.

Гэта працэдура абраду хрышчэння паўтараецца тройчы.

Затым па тры разы чытаюцца малітвы і псалмы, пасля гэтага крыжык з гайтанам (адмысловай вяровачкай) ускладаецца на дзіця. Хрышчонага апранаюць у сарачыцу і падвязваюць паяском.

На працягу трох дзен нельга здымаць адзенне і купаць дзіця.

На завяршэнне гэтага абраду хрышчэння поп прыкладае дзіця да крыжа (дарослы цалуе сам) і чытае кумам павучэнне: правілы царкоўныя не парушаць, заўседы быць у малітве, даць таму, хто церпіць нястачу, любіць людзей і не мець гонару ды славалюбства.

***Святлана* БУЙНІЦКАЯ.**



МЕРКАВАННІ. ПРАПАНОВЫ. ІДЭІ

★ЭКСПРЭС - АПЫТАННЕ

## ПАДСУМУЕМ?

Дасягнуць ідэалу немагчыма. Але ж імкнуцца да яго трэба. У гэтым - зарука паступовага развіцця, дасканаласці, прафесіяналізму.

Усялякае мерапрыемства можна ацэньваць па - рознаму. Але, думаецца, адзін з найважнейшых крытэрыяў - арганізацыйны бок яго. Як гаворыцца, што спячэш, тое і з"ясі...

Імкнучыся ўдасканаліць арганізацыю правядзення краязнаўчых чытанняў, рада таварыствараспаўсюдзіла сярод удзельнікаў Пятых чытанняў, якія адбыліся нядаўна, адмысловую анкету. Сярод пытанняў яе было і такое: «Якім чынам вы асабіста правялі б чытанні?»

Аляксей Хадыка, галоўны рэдактар часопіса «Спадчына», кандыдат мастацтвазнаўства:

- Думаю, што пасля напружанай працы вельмі дарэчы аказаўся б невялічкі канцэрт. Спадзяюся, мясцовыя артысты (хор, гурт, саліст, гітарыст) не адмовіліся б бясплатна ці за сімвалічную аплату выступіць перад такой зацікаўленай аўдыторыяй. І для іх той канцэрт стаўся б добрай рэкламай.

Анатоль Марозаў, выкладчык гісторыі ПТВ - 217:

- Чытанні варта пачынаць крыху раней, хаця б а 10 - й гадзіне раніцы. Карысна было б працаваць і па секцыях, а не праводзіць агульнае паседжанне, што дазволіць значна сэканоміць час, якога так адчувальна не хапала.

Генадзь Лапо, мастак - афармляльнік ПМК - 241:

- Чытанням не хапае дыскусійнасці. Арганізатарам іх трэба прадугледзіць магчымасць правядзення дыскусій, адвесці на іх час.

*Лілія* **ЛАХЦІКАВА.**

# хто ж перамог на Бярэзіне ў 1812 годзе?

**Бітву на рацэ Бярэзіна ўславілі ў сваіх творах Стэндаль, Бальзак, Дзюма...**

**Федар Дастаеўскі лічыў падзеі каля вёскі Студзенка, што на барысаўшчыне, адным з чорных эпізодаў у гісторыі Еўропы.**

Дзякуючы ідэалагічнай трактоўцы гэтых далекіх падзей у савецкі перыяд многае застаецца невядомым шырокаму колу чытачоў. Думка пра тое, што ў арміі Напалеона змагаліся ў асноўным французы, не адпавядае сапраўднасці. У бітве ўдзельнічала больш за 70 адсоткаў замежнікаў. Асноўны цяжар лёг на плечы палякаў, немцаў, галандцаў, швейцарцаў. У прыватнасці, на левым беразе Бярэзіны ў сутычках з рускай арміяй удзельнічалі каля 7 тысяч напалеонаўскіх салдат. Каля 300 з іх былі французскімі салдатамі 3 батальена 55 - га пяхотнага палка дывізіі Партуно і разлікаў 10 гармат 9 - га корпуса маршала Віктора. Астатнія - немцы ды палякі.

Стварыўшы новую дзяржаву - Герцагства Варшаўскае, - Напалеон сфармаваў на тэрыторыі сучаснай Беларусі шэраг літоўскіх вайсковых частак, паколькі пасля фарсіравання Немана частка Вялікага Княства Літоўскага ўлілася ў склад гэтага дзяржаўнага ўтварэння. У бітве на Бярэзіне прымалі ўдзел 18 - ы, 19 - ы уланскія палкі, 23 -і пяхотны полк, сфармаваныя ў Нясвіжы, Пінску, Менску. Гэтыя фарміраванні складалі аснову дывізіі генерала Дамброўскага, якія абаранялі Барысаўскі тэт - дэ - пон напрацягу сутак супраць дзесяцікроць пераўзыходзячых войскаў расейскага генерала Чычагава.

Дасведчаныя людзі толькі паціскаюць плячыма, калі чытаюць надпісы на помніку аб перамозе Кутузава каля вескі Студзенка. Кутузаў у той час знаходзіўся ля Талачына і рабіў усе магчымае, каб пазбегнуць сутычкі з французамі. Ён лічыў, што аслабленне напалеонаўскай арміі пойдзе на карысць Англіі і на шкоду Расіі, спадзеючыся, што Напалеон і так выведзе сваё войска за Неман. І за гэта доўгі час падвяргаўся крытыцы гісторыкаў, асабліва расійскіх.

Абодва бакі на Барысаўскім тэатры ваенных дзеянняў, паводле даследванняў сучасных гісторыкаў, напрыклад, І. Груцо, А. Сокалава, страцілі каля 40 тысяч узброеных чалавек. Калі ж дадаць да гэтай колькасці няўзброеных («некамбатантаў»), а таксама памерлых ад ран і хвароб у шпіталях Барысава і вескі Жыцькава, агульныя ахвяры даходзяць да 60 - 70 тысяч.

Дык ці была перамога рускай арміі на Беразіне?

Меркаванні па гэтаму пытанню разыходзяцца. Еўрапейская гістарычная навука адназначна ацэньвае бітву як яркае праяўленне вайсковага таленту Напалеона: панесшы вялікія страты, астаткі яго арміі вырваліся з кальца, створанага манеўрамі трох рускіх армій, захавалі частку артылерыі, казну, баявыя харугвы, а таксама вывелі каля 1600 палонных расейскіх салдат, якіх захапілі ў Стахаўскім лесе ў выніку імклівай атакі кірасіраў генерала Думерга. Прывядзем паралель. Выхад партызанскіх злучэнняў з акружэння ў чэрвені - ліпені 1944 года ў раене Паліка, якія захавалі таксама частку артылерыі, вынеслі параненых, але пры гэтым панеслі цяжкія страты, савецкай гістарычнай навукай прызнаецца перамогай беларускіх партызанаў.

*Паводле артыкула старшыні ГА «Мінскі пяхотны полк»* **Уладзімера КІШЧАНКІ** *«Невядомыя старонкі 1812 года» («Борисовские новости», № 46, 2002 г.).*

КНІГАРНЯ

## ДАВЕДНІК ПРА АРШАНСКІХ КРАЯЗНАЎЦАЎ

У Оршы (Віцебская вобласць) выйшаў біяграфічны даведнік "Аршанскія краязнаўцы". Выданне падобнага біяграфічнага зборніка было ажыццёўлена ўпершыню ў Беларусі. Прэзентацыя адбылася 30 кастрычніка ў аршанскай сярэдняй школе №1, дзе працавала стваральніца даведніка, настаўніца Святлана Іванова. Яна не дажыла да выхаду сваёй кнігі, і яе справу завяршылі калегі і сябры. У кнізе ўпершыню сабраная інфармацыя пра 26 асоб, якія даследавалі і даследуюць гісторыю роднага горада, пачынаючы з 20-х гадоў мінулага стагоддзя да нашых дзён. Многія з іх прысутнічалі на прэзентацыі і выказалі словы падзякі ў адрас стваральнікаў даведніка, выказалі свае заўвагі і прапановы, падзяліліся вынікамі сваіх пошукаў і планамі на будучыню. Паводле агульнай думкі ўдзельнікаў прэзентацыі, з'яўленне зборніка паспрыяе далейшаму паглыбленню ведаў пра родны край, дзе ўпершыню ў Віцебскай вобласці ўведзена выкладанне краязнаўства ў курсе сярэдняй школы.

*Ірына* **КАЧАНОВІЧ.**

МАГІЛЕЎШЧЫНА: ЗНАЁМСТВЫ

# САМАЯ ДАРАГАЯ ЎЗНАГАРОДА

**У Краснаполлі жыве цікавы чалавек: настаўнік, апантаны краязнаўца Леанід Васільевіч ЛАБАНОЎСКІ.**

**Ён стварыў гісторыка - краязнаўчы музей мясцовай СШ № 2, якому нададзена годнасць народнага, напісаў шэраг кніг па гісторыі краснапольшчыны. Адна з апошніх - «У бой ішлі настаўнікі» (Мазыр, «Белы Вецер», 2001 г, 212 ст.).**

**Прапаноўваем адзін з матэрыялаў новай кнігі Леаніда Васільевіча.**

**Да** вайны настаўнік Пётр Маісеевіч Слаўнікаў, ураджэнец вёскі Крывяліцк Краснапольскага раена, працаваў у Хатыжынскай пачатковай школе. Вучыў дзяцей, вырашаў задачы аб усеагульнай пачатковай адукацыі і прымаў актыўны ўдзел у барацьбе з непісьменнасцю сярод дарослых. У 1935 годзе яму выдалі ў ліку першых у Краснапольскім раене пасведчанне "Ударніка - асветніка". На вокладцы білета было напісана: "Ударнік - перадавы змагар за перамогу сацыялізму".

... Ужо на другі дзень пасля нападу гітлераўскай Германіі на нашу краіну Петр Маісеевіч Слаўнікаў быў у складзе дзеючай арміі. Зведаў таксама горыч адступлення, змагаўся з ворагам на подступах да Масквы.

За вайну давялося прайсці з баямі доўгі шлях, вызваляў Тулу, удзельнічаў у Курска - Арлоўскай бітве, а потым вызваляў свой родны Краснапольскі раен.

Амаль усё яго франтавое жыццё было звязана з баявымі дзеяннямі 856 - га стралковага палка 283 - й стралковай дывізіі.

У канцы верасня 1943 года 283 - я стралковая дывізія выйшла на зыходныя рубяжы з мэтай вызвалення Краснапольскага раена. Яна пераследвала адступаючага праціўніка 321 - й нямецкай пяхотнай дывізіі, якая пераходзіла да абароны на прамежкавых рубяжах, адыходзячы ў заходнім напрамку. 28 верасня распараджэннем штаба дывізіі № 0061 856 - ы стралковы полк атрымаў задачу імкліва разгортваць баявыя дзеянні па маршруце Негін, Склін, Гарэзна і выйсці на рубеж першых населеных пунктаў Краснапольскага раена: Госліў, Сасновіца, выставіўшы перадавы атрад на вышыні 177,5 каля вёскі Антонаўка, ведучы разведку ў напрамку Жаліжжа, Расумахі[Архіў РФ, ф. 1581, воп. 1, с. 19, л. 109].

Тут, пад Антонаўкай, на вышыні 177,5 П. М. Сдаўнікаў прыняў на роднай зямлі свой першы бой. Праціўнік пры падтрымцы самаходных гармат перайшоў у контратаку.

«Не буду хлусіць, - успамінаў ветэран, - спачатку вельмі хваляваўся. Аўтаматныя чэргі, кулямётныя стрэлы, а потым атака стваралі вялікае напружанне, але было і натхненне, прыемнае адчуванне, што ўдзельнічаю ў баі за вызваленне роднага краю".

У выніку праціўнік быў разгромлены, страціў да 320 забітымі і параненымі салдат і афіцэраў, былі захоплены дзве аўтамашыны, склад абутку, важныя сакрэтныя дакументы 427 - га нямецкага палка, шмат іншых трафеяў. А далей была патрэбна разведка, каб больш паспяхова рухацца наперад. Камандзір палка Якунін, даведаўшыся, што настаўнік П. М. Слаўнікаў родам з Краснапольскага раена, загадаў выклікаць яго ў штаб. Размова была кароткай.

- Разам з групай разведчыкаў прайсці па знаемых мясцінах праз Расумаху да рэчкі Травінка і сабраць разведданыя пра адступаючага праціўніка.

А потым, крыху памаўчаўшы, не па - статутнаму дадаў:

- Рыхтуйцеся, Петр Маісеевіч, да сустрэчы з роднымі і землякамі.

Але гэта было толькі пажаданне. Загад быў выкананы, наступленне працягвалася.

А наперадзе былі новыя выпрабаванні.

Да вечара 30 верасня немцы замацаваліся на новым прамежкавым рубяжы паблізу вёскі Кажамякіна, што за сем кіламетраў ад Краснаполля. Але як ні супраціўляўся вораг, стрымаць наступальны парыў яму не ўдалося. У хуткім часе былі вызвалены вёскі Гарадзецкая, Новая Ельня, а потым і родны для Пятра Маісеевіча Крывяліцк.

З успамінаў П. М. Слаўнікава:

*«Радасці для мяне не было канца. Мы ішлі па сваей зямлі, чулі родную мову, вызвалялі сваіх землякоў. Толькі на некалькі гадзін я атрымаў дазвол заглянуць да родных у Крывяліцк. А далей быў шлях з баямі праз Старынку і Каменку да ракі Сож.*

*Зараз цяжка пералічыць, колькі варожых атак давялося адбіць, колькі разоў самому даводзілася ўзнімацца ў атаку. Прымаў удзел і ў аперацыі "Баграціён" па канчатковым вызваленні Беларусі, з цяжкімі баямі ішоў праз Польшчу, ваяваў на нямецкай зямлі, штурмаваў Берлін. Нялёгкай для нас была Перамога і хочацца, каб аб гэтым памяталі і не забываліся нашы нашчадкі».*

**Ёсць** у П. М. Слаўнікава шмат баявых узнагарод, але самай дарагой ён лічыць ордэн Чырвонай Зоркі, які атрымаў за вызваленчыя баі на зямлі Краснапольскай.

## КРАЯЗНАЎЦЫ ПРЫДНЯПРОЎЯ

АГЕЕЎ Аляксандр Рыгоравіч.

Нарадзіўся ў горадзе Шклове. Скончыў Магілеўскі дзяржпедуніверсітэт імя А. Куляшова, на гістарычным факультэце якога зараз і працуе.

Кандыдат гістарычных навук.

ГРУДЗІНА Аляксандр Пятровіч.

Нарадзіўся ў горадзе Шклове. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію па спецыяльнасці інжынер - механік. Працаваў у Шклоўскай райаграпрамтэхніцы, цяпер - выкладчык Шклоўскага ПТВ - 139.

Краязнаўствам займаецца каля 20 гадоў.

ЛАБАНОЎСКІ Леанід Васільевіч.

Нарадзіўся ў весцы Сасновіца Краснапольскага раена. Скончыў гістфак Магілеўскага дзяржпедуніверсітэта імя А. Куляшова.

Жыве і працуе ў Краснаполлі.

Краязнаўствам займаецца з 1958 года. Аўтар шэрагу кніг па гісторыі краснапольшчыны.

ЛІЎШЫЦ Уладзімір Маісеевіч.

Нарадзіўся ў горадзе Красны Кут Саратаўскай вобласці. Скончыў Магілеўскі дзяржпедуніверсітэт. Працуе дырэктарам Горацкага гісторыка - этнаграфічнага музея. Кандыдат філасофскіх навук.

Краязнаўствам займаецца з 1964 года. Аўтар шэрагу кніг. Сярод іх: «Горкі. Гісторыка - эканамічны нарыс» (1984), «Летапіс горада Горкі» (1995), «Раскопкі вакол Горацкага "Парнаса"» (1992), «Максім Гарэцкі - жыццё і творчасць» (1993) і інш.

МАРЗАЛЮК Ігар Аляксандравіч.

Нарадзіўся ў мястэчку Краснаполле. Скончыў гістфак Магілеўскага дзяржпедуніверсітэта, дзе і працуе зараз.

Кандыдат гістарычных навук.

ПУШКІН Ігар Аляксандравіч.

Нарадзіўся ў горадзе Орша. Скончыў гістфак Магілеўскага дзяржпедуніверсітэта. Працуе ў Магілеўскім дзяржаўным універсітэце харчавання.

Аўтар шматлікіх навуковых артыкулаў, аўтар, сааўтар і укладальнік 7 кніг.

Працяг будзе.

## ЗЬНІЧОВАЕ КНЯСТВА

Ірына БАГДАНОВІЧ

Чырвоным лісцем вінаград
Усыпаў дол каля хаціны,
Дзе беспрытульны сын айчыны
Свой сніў рыфмарны зорапад.

І я хадзіла ў гэты дом,
Дзе гралі мы на фортэп"яна,
І дадавалі часам ром
Ў гарбаты кубачак духмяны.

Чыталі вершы, і вялі
Нас мары нашыя супольна
У той шляхотны час, калі
Мы Беларусь збудуем вольнай.

Калі ж пад цяжкасцю мяча
Упала княства рыфмарова,
Уратавала Бога Слова
І духацерпніцтва Зьніча.

* * *

Так, як Хрыстос, абылганы, распяты,
З мёртвых паўстаў, каб нас весці да раю,
З мукаў крыжовых, на ганьбу Пілату,-
Так уваскрэснеш і ты, родны Краю!

Тут зазвініць ручаінамі мова,
Дзеткі анёльна на ёй зашчабечуць...
Бо засталося ж паўкрока, паўслова -
Дай жа нам Бог іх прамовіць, прабегчы!..

## ЗГАДКА ПРА ВІКТАРА ХАЎРАТОВІЧА

Разглядаючы аўтографы пісьменнікаў пра кнігу, а іх у мяне сабралася ля сотні, нататкаў на запіс Віктара Хаўратовіча: ***«Я не ўяўляю жыццё без кнігі, асабліва, калі гаворка заходзіць аб духоўным і культурным свеце чалавека.***

***Кніга - духоўны пачатак.***

***14. 3. 90 г. Віктар Хаўратовіч».***

І мне прыпомнілася, як нас яшчэ напрыканцы 70 - х гадоў пазнаёміў Аляксей Пысін. А ў 1981 годзе былі мы, ажураныя, на пахаванні любімага намі і незабыўнага Аляксея Васільевіча Пысіна, які дачасна "у сваю дывізію пайшоў..."

Зрэдку бачыліся і пазней. Апошні раз паэта Віктара Хаўратовіча пабачыў у Магілеве 14 сакавіка 1990 года. Спаткаліся на абласным тэлебачанні, дзе запісвалі нашы ўспаміны пра Аляксея Васільевіча.

Вось у той дзень і даў мне В. Хаўратовіч аўтограф пра кнігу. А яшчэ сваёй рукой у «Вянок Пысіну» запісаў верш «Душы высокае напружанне, напісаны да 60 - годдзя Аляксея Васільевіча. Больш мы не сустракаліся: неўзабаве мой сябра - цёзка пайшоў (таксама заўчасна) даганяць дывізію Аляксея Васільевіча...

Ніколі не згасне ў маей памяці светлы вобраз Віктара Хаўратовіча: паэта і чалавека працавітага, сціплага, шчырага, сардэчнага, праўдзівага і мужнага.

*Віктар* АРЦЕМ"ЕЎ.

## віктарынка

**Спачатку адкажыце на прапанаваныя пытанні. А затым праверце свае адказы, звярнуўшыся да кніжак, настаўнікаў...**

1. Якая падзея адбылася 15 ліпеня 1410 года? Што вы ведаеце пра яе?
2. Хто і калі заснаваў у Бялынічах кляштар для кармелітаў? Чым знакаміта гэта асоба?
3. Што адбылося пасля памінальнай прамовы камісара канвентаў беларускіх кармелітаў, прамоўленай ім у Бялынічах 22 лістапада 1652 года?
4. Назавіце галоўныя вынікі Крэўскай уніі (калі, дзе і кім яна была прынята?), як асабіста вы іх ацэньваеце?
5. Што вы ведаеце пра БНР? Чаму 25 сакавіка святкуецца Дзень Волі?
6. Адзін з першых беларускіх авіятараў, кавалер трох Георгіеўскіх крыжоў, першы летчык Запаляр"я ... . Згадайце ягоны лёс?
7. Колькі пленэраў па жывапісу, прысвечаных памяці В. К. Бялыніцкага - Бірулі адбылося? А сярод іх - міжнародных?
8. Назавіце прозвішча самага старэйшага ў Бялыніцкім раене чалавека?
9. Апішыце герб і сцяг Бялынічаў? Калі і кім ён быў зарэгістраваны?

УДАЧЫ!

Бялыніцкая даўніна

РЭДАКТАР Міхась КАРПЕЧАНКА

Тэл. 53 - 078
наклад 215 асобнікаў.
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі